# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Абвестка.** Сэкцыя Асьветы і грамадзкай апекі магістрату м. Менску гэтым падае да ведама усіх гадунцоу прытулкау і вучняу гарадзкіх школ аб ніжэйпаданым:

1) Усе дзеці з належачых да Магістрату прытулкау могуць адтрымліваць у амбуляторыі пры вул. Тадэуша Рэйтана № 13 (у доктара Шубэрля) параду і лякарства бясплатна,

2) Дзеці з пачатковых школ, належачых да магістрату, прыймаюцца у амбуляторыі доктарам Шубэрля бясплатна, за лекарствы-ж плаціцца 1 руб., калі-ж вучань бедны, дык доктару павінно быць дастаулено пасьвядчэньне ад настауніка, дзеле адтрыманьня лякарства дарма.

3) Лячэньне і плембаваньне зубоу дзецям з прытулку і паказаных школ пачатковых учыняецца бясплатна.

Кожны вучань павінен мець патрэбнае пасьведчаньне ад школы.

4) Гэткіе-ж умовы лячэньня, апрача лячэньня зубоу, адносяцца і да 1-ае амбуляторыі (др Таубкін).

5) Дзеля прыему хворых дзяцей са школ, належачых да Магістрату вызначаны дактары: у лячніцы дзеля хворых прыходзячых—д-р Шубэрля (гадзіны прыему ад 10 да 1 па палудні) і у першай гарадзкой амбуляторыі—д-р Таубкін.

6) Адрэс лячніцы для прыходзячых хворых: вул. Тадэуша Рэйтана (быуш. Юрауская), № 13, а першае амбуляторыі — Нова - Маскоуская, № 24.—

**Ч. Родзевіч** Шэф сэкцыі, Асьветы і грамадзкай апекі. Лаунік, Магістрату,
**Я. Фарботка** сэкр. сэкцыі.

**Страхаваньне служачых на чыгунцы** мае быць уведзено на усіх чыгунках з новага году.

**Тавараабмен з вескай** мае быць наладжаны у малым разьмеры гэтымі днямі праз Цэнтрабелсаюз: на лой, селядцы і газу, ад сельскіх коопэратывау мае быць адтрымана для места у належным ліку бульба і хлеб.

**Сельска-гаспадарскі месячнік „Саха“**, посьле доугага перарыву, зноу пачне выдавацца у хуткім часе пад рэдакцыяй А. Н. Уласава.

**Адміністрацыя чыгунак** прыняла усе меры, каб рух цягнікоу быу нормальны. Дзеля гэтага апошнімі днямі цягнікі пачалі прыбываць з меньшымі апазданьнямі чым раней.

**Прабраушыеся праз лінію фронта** апавядаюць, што савецкім урадам выданы дэкрэт, па катораму усе што пераходзяць лінію фронта лічацца шпіонамі і будуць расстрэлівацца. Дзеле гэтага апошнімі днямі пераходы праз фронт становяцца рэдка.

**Налог з млыноу**, па ініцыятыве мукамолау, будзе $1^1/_2$ фунты з пуда. Гэты збор мукамолы аддаюць у казну зусім дарэмна.

Калі гэта мера будзе праведзена у жыцьце (каля новага году), дык плюс хлебных запасау у упрауленьні округу можа дайсьці болей $^1/_2$ мільлена пудоу.

**Саюз смалярнікау** завязау гандлевые зносіны з заграніцай. У хуткім часе пачнецца экспорт смалярніцкіх прадуктау у Англію.

**Лясные купцы** пачалі злучацца у свой саюз. Яны маюць так сама організаваць лясную біржу, праз каторую павінны будуць прахадзіць усялякіе лясные зьделкі. Яны рыхтуюць так-сама дакладную запіску аб палажэньні лясной справы на Беларусі і прапануецца рад мер па урэгуліраваньню пытаньня аб апрацоуцы леса.

**Фондавая біржа** ужо з'організована і будзе адчынена гэтымі днямі. Біржа гэтая урэгуліруе валютнае пытаньне.

**На біржы** апошнімі днямі зьявіцся вялікі спрос на аустрыяцкіе кроны. За крону плацяць 55—60 капеек. Высокіе у цане царскіе—за 100 р.—120—125 р. польскіх марак. 250 р. „дум.“—90—95 р. цар. 1000 р. „дум.“—400—410 р. царск. У вялікім спросе керэнкі і савецкіе. Ахвотна купляюць розные акцыі і другіе расійскіе вартасьці.

**Недахватак дроу** у месьце і дарагоуля вельмі адбіваецца на жыхарох акраін. Апошніе, у зьвязі з гэтым, пачалі сыстэматычна цягаць усе тое, што можна паліць: парканы, тротуары, сьцены і дахі сараяу. Сякуць дрэвы—усе гэта ідзець на апал. Жыхары акраін зьбіраюць хворост у блізкіх лясох каторым і апаліваюць. А усе-ж іх стан вішчо вельмі кепскае і пры усіх стараньнях яны церпяць холад.

**Бульба** патанела да 50 к. фунт.

## Допісы.

**Маладэчына**, Вялейскага пав. У Маладэчыне мясцовая народная інтэлігенцыя маніцца закласьці свой беларускі гурток. Найбольш завінуліся каля гэтага тутэйшые беларускіе вучыцелькі, вучыцялеу менеі і іх на тое ахвотна бяруцца. Ініцыятарамі беларускай арганізацыі есьць: Рацкевіч, Чарняускі, Васючэнка і інш. Цяжка знайсьці кватэру для гуртка, бо у Маладэчыне шмат зялезнадарожнікау і усе кватэры пазаймалі. Тымчасам у другую нядзелю маніцца быць беларускі спэктакль у Маладэчыне. Згуляюць яго тые-ж людзі, што і гурток закладаюць. Тут ізноу бяда з заляю. У Маладэчыне есьць добрая заля, але у ей цяпер гуляюць спэктаклі паляскі на карысьць польскай гімназіі у Маладэчыне. Начальнік рэвіру абяцауся, што адзін раз будзе заля давацца пад польскі спэктакль, а другі раз беларускі. Трэба так-сама спадзявацца, што беларусоу ня будуць прымушаць плаціць процэнты з сваіх спэктаклау на польскую гімназію.

У тутэйшым польскім гуртку есьць беларусы каталікі, некаторые, з іх сьвядомые. У іх есьць жаданьне закласьці свой беларускі гурток. Вельмі было-б добра, каб сьвядомые беларусы каталікі, злучыушыся з сьвядомымі беларусамі праваслаунымі, утварылі адзін агульны беларускі гурток. Не павінна быць ніякай ніверы і падзелу паміж беларусамі праваслаунымі і каталікамі. Ідэя у нас адна—гэта адраджэньне свае Бацькаушчыны. Мы хоць розные веры, але сыны адное Маці-Беларусі.

Яст.

## Тэатр і мастацтво.

**Таварыство Працаунікоу Беларускага Мастацтва** у Менску распачынае пастанову беларускіх народных спэктакляу, каб стварыць магчымасьць шырокім масам мяйсцовага насяленьня пабыць у тэатры.

Першы такі спэктакль адбыуся у пятніцу, 28 лістанада па значна паніжаннаму кошту білетау.

Пастаулена была: І—„Птушка шчасьця“—жарт у 2 дзеях са сьпевамі і танцамі, а затым вялікі дывэртысмэнт хору пад назвай „Беларускі Пясьняр“—інсцэніроука Янкі Сьветляка.

У спэктаклі прыймалі удзел больш 50 асоб. Аркестар сымфонічны.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Менск. Друкарня Інвалідау,